СА СПАДЧЫНЫ ПЕРШАДРУКАРА

# ПРА МОВУ СКАРЫНІНСКІХ КНІГ

Напярэдадні 500-гадовага юбілею беларускага асветніка, гуманіста і першадрукара Францыска Скарыны, натуральна, узрастае цікавасць да яго культурнай спадчыны, адной з важнейшых неад'емных частак якой з'яўляецца мова яго выданняў.

Мова Скарыны, як і яго светапогляд, — заканамерны прадукт эпохі, у якую яму давялося жыць і працаваць. Эпоха Скарыны — гэта эпоха Адраджэння - Рэфармацыі, адзін з рэвалюцыйных перыядаў у развіцці чалавецтва. Гэтыя дзве вядучыя ідэалогіі таго часу знайшлі ў светапоглядзе друкара ўдалае спалучэнне, надаўшы яго дзейнасці дэмакратычны кірунак. Вытокі дэмакратызму Скарыны — у вучэнні Эразма Ратэрдамскага, італьянскіх гуманістаў, чэшскіх рэфарматараў. Вышэйшая вартасць Новага запавету, пісаў Ратэрдамскі, заключаецца ў тым, што ён не толькі прадпісвае чалавеку самыя дасканалыя маральныя патрабаванні, але і паказвае ўзор іх выканання на прыкладзе Хрыста. Ідэйным крэда Скарыны з'яўляецца яго сакраментальнае «вера безъ делъ мертва есть». Ён арыентуе чалавека на рэальнае, практычнае, грамадска карыснае жыццё, служэнне «пожитку посполитому», падзвіжніцтва ў духу Хрыста ў імя асветы народа, прывіцця яму добрых нораваў. Гэтае перакананне і знайшло выражэнне ў выданні ім кніг «для людзей простыхъ языка руского».

Ідэолагі Рэфармацыі абвясцілі, што чалавек павінен непасрэдна зносіцца з богам, а для гэтага яму патрэбна даць поўны тэкст свяшчэннага пісання на яго роднай мове. Гэта неабходнасць абгрунтоўвалася яшчэ і недакладнасцямі лацінскага перакладу Бібліі, зробленага ў XIV стагоддзі Еранімам. Ідэю выдаць Біблію на зразумелай беларусам мове Скарына мог пераняць непасрэдна ад гусітаў, вучэнне якіх пранікла на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага яшчэ ў XV стагоддзі. Ян Гус, у прыватнасці, пісаў: «Належыць... стварыць асобы... будынак, каб там даць магчымасць верным Хрысту жыхарам Прагі збірацца ў вызначаным месцы ў тым горадзе для слухання слова боскага на роднай чэшскай мове». У такім жа духу выказваўся і яго паплечнік Томаш Шчітны: «Яшчэ св. Павел пісаў на мове тых, каму пісаў... Таму мне не думаецца, што было б дрэнна пісаць чэхам кнігі па-чэшску, з дапамогай якіх яны маглі б мець хрысціянскую веру і добрыя павучэнні». Чэхія была першай, дзе вельмі рана ўзніклі шматлікія рукапісныя пераклады Бібліі на чэшскую мову. Адным з гэтых перакладаў, надрукаваным у 1506 годзе ў Венецыі, карыстаўся Скарына пры падрыхтоўцы сваіх выданняў, і гэта важны доказ уплыву на яго прыкладу чэшскіх рэфарматараў.

Як вядома, усе еўрапейскія рэфарматары пераклалі Біблію на народныя мовы адразу. Чаму ж Скарына ў сваіх выданнях не змог пазбавіцца ад традыцыйнай мовы праваслаўнай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім — царкоўнаславянскай? На нашу думку, перашкодай для яго ў гэтым паслужыла няспеласць умоў для Рэфармацыі ў яго на радзіме і, як вынік, няспеласць яго самога як рэфарматара.

Захаванне традыцыйнай асновы мовы Бібліі Скарынай тлумачыцца яшчэ і тым, што царкоўнаславянская мова ў адрозненне ад лацінскай на Захадзе была не чужой беларусам. Таму і адыход ад яе ў бок народнай адбываўся без рэзкага спынення пісьмовай традыцыі. Бо сам пераклад свяшчэннага пісання, зроблены ў свой час Кірылам і Мяфодзіем, азначаў перамогу народнай стыхіі над чужой лацінскай.

Блізкасць мовы выданняў Скарыны да народнай — вынік не толькі яго рэфарматарскіх імкненняў. Гэта тлумачыцца яшчэ і становішчам царкоўнаславянскай мовы ў той час у Беларусі. Як сведчаць гістарычныя звесткі, яна перажывала заняпад, выкліканы крызісам у гэтым рэгіёне самога праваслаўя. Можна сцвярджаць, што ў такіх умовах Скарына і не мог авалодаць царкоўнаславянскай мовай на такім узроўні, каб дабіцца яе чысціні ў сваіх выданнях. Цікава, што ў той жа час ён здолеў у сябе на радзіме авалодаць лацінскай мовай настолькі добра, што аказаўся ў стане закончыць два еўрапейскія універсітэты —Кракаўскі і Падуанскі, дзе выкладалі па-лацінску. Адыграла сваю ролю і адсутнасць у Скарыны царкоўнаславянскіх спісаў шэрагу біблейскіх кніг.

Замяняць найбольш незразумелыя царкоўнаславянскія словы беларускіх перапісчыкаў здаўна прымушала паглыбленне разыходжанняў паміж гэтымі мовамі. Аднак дапускалася гэта спачатку толькі ў адносінах да некананічных кніг (якія не ўваходзілі ў склад Бібліі), прызначаных не для літургі[illegible] для хатняга чытання. [illegible]асці прыкладу такой змешанай царкоўнаславянскай мовы можна прывесці Чэццю, перапісаную ў Навагрудку ў 1489 годзе. Кананічныя ж кнігі, уключаныя ў Біблію, [illegible]-ранейшаму заставаліся [illegible]асягальнымі для беларусізмаў. Рэфармацыйныя ідэі і натхнілі Скарыну на парушэнне гэтай традыцыі.

Змешаны характар мовы скарынінскіх кніг стаў прычынай таго, што не адразу вучоныя змаглі правільна вызначыць яе аснову.

Так, першы буйны скарыніст, рускі мовазнавец мінулага стагоддзя П. Уладзіміраў, прыняўшы пад увагу толькі беларускія рысы ў гэтых выданнях, зрабіў вывад аб беларускай аснове іх мовы. Гэтую думку падтрымалі тады А. Будзіловіч, Я. Галавацкі, а ў савецкі час — Ц. Ломцеў, М. Алексютовіч і некаторыя іншыя.

Аднак яшчэ сучаснік П. Уладзімірава А. Сабалеўскі ў рэцэнзіі на яго працу сцвярджаў, што Скарына быў далёкі ад думкі пісаць і выдаваць на жывой беларускай мове. Аб'ектыўны погляд на мову скарынінскіх выданняў як царкоўнаславянскую ў аснове стаў у наш час вядучым. Ён грунтуецца, па словах мовазнаўцы - скарынаведа А. Жураўскага, на аснове вывучэння ўсёй сукупнасці моўных фактаў. З улікам гэтага патрабавання ў рэспубліцы і за яе межамі разгарнулася сур'ёзнае даследаванне скарынінскай моўнай спадчыны. Убачыў свет двухтомны «Слоўнік мовы Скарыны», падрыхтаваны даследаванні па мове асобных яго кніг, у рамках юбілею першадрукара ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР рыхтуецца манаграфія «Мова выданняў Францыска Скарыны».

Можна было б меркаваць, што пераклады тэкстаў біблейскіх кніг, дзе Скарына не быў самастойным у выбары сродкаў моўнага выражэння, павінны адрознівацца з боку мовы ад яго арыгінальных прадмоў і пасляслоўяў, дзе ў яго такая свабода была. Аднак А. Жураўскі, супаставіўшы гэтыя часткі яго выданняў, прыйшоў да вываду, што яны з боку мовы амаль ідэнтычныя. Гэта азначае, што для Скарыны размяжоўваць беларускія і царкоўнаславянскія моўныя сродкі было справай нялёгкай, і ён да гэтага не імкнуўся. А. Жураўскі дапускае ў сувязі з гэтым, што пад назвай «руский язык» Скарына разумеў тое, што сёння прынята называць беларускай рэдакцыяй царкоўнаславянскай мовы, важнейшым этапам у фарміраванні якой і сталі яго выданні.

Моўнае аблічча скарынінскіх выданняў у значнай ступені вызначалася асаблівасцямі іх рэдакцыйнай падрыхтоўкі. Тут Скарына, як і чэшскія рэфарматары, ішоў самастойным шляхам. Праследуючы рэфарматарскія і асветніцкія мэты, ён паставіў перад сабой задачу выдаць поўны і зразумелы тэкст Бібліі. Таму пры яго падрыхтоўцы ён карыстаўся некалькімі крыніцамі на розных мовах, запаўняючы пропускі ў адных за кошт другіх. У выніку яго выданне адступае і ад праваслаўнай Бібліі (Септуагінты) і ад каталіцкай (Вульгаты).

Як ужо гаварылася, ён карыстаўся Чэшскай бібліяй 1506 года, якая ў сваю чаргу адрозніваецца не толькі ад Вульгаты, але і ад папярэдніх чэшскіх перакладаў. У распараджэнні друкара былі і асобныя кнігі царкоўнаславянскай Генадзіеўскай бібліі 1499 года, царкоўнаславянскія выданні польскага друкара Феоля Швайпольта і югаслаўскага Бажыдара Вукавіча. Ідэалам Скарыны, як і Эразма Ратэрдамскага і Марціна Лютэра, быў чалавек «еврейского языка и греческого досконале умелый». Таму ў сваёй працы ён выкарыстаў таксама крыніцы і на гэтых мовах. Былі ў яго пад рукой і лацінскія тлумачэнні да Бібліі славутага прапаведніка таго часу Мікалая Лірана. Усе гэтыя крыніцы пэўным чынам паўплывалі на мову скарынінскіх перакладаў-рэдакцый.

Асаблівасці мовы Скарыны, абумоўленыя ўказанымі сацыяльнымі ўмовамі таго часу, асабліва тыя, якія характарызуюць яе беларускую рэдакцыю царкоўнаславянскай мовы, бачныя на ўсіх яе ярусах.

Ужо склад літар, якім карыстаецца выдавец, збліжае яго кнігі са старабеларускімі тэкстамі. Ён не выкарыстоўвае найбольш устарэлыя дублетныя літары старажытнай кірылічнай азбукі (юс вялікі, юс вялікі ётаваны, юс малы ётаваны). З другога боку, ён выкарыстоўвае спалучэнне «кг», выпрацаванае старабеларускімі кніжкамі для перадачы выбухнога «г».

Пры перавазе традыцыйных фанетычных рыс—царкоўнаславянскіх і старажытнарускіх адзначаюцца і тыпова беларускія, напрыклад, аканне і яканне **(золатарев, манисто, иржавяет)**, прыстаўное і **(илжетъ, игде, исперва)**, у на месцы ў **(усходъ, оу реце, у воде)**, ў кароткае, якое перадаецца праз в **(вмерети, вмучени, вмыти)**, прыстаўныя в і г **(вужъ, гужи, гусеница)**, цвёрдыя губныя і шыпячыя **(Жыкгимонта, голубъ, кровъ, Юдифъ)**.

У галіне назоўніка назіраецца пераўтварэнне старажытнай сістэмы скланення па асновах, якая захоўвалася ў старaславянскай мове, у сістэму скланення па родах, якая стала нормай усходнеславянскіх моў. Так, у родным склоне адзіночнага ліку побач з ранейшымі формамі **духа, завета, ада, народа** ўжываюцца і новыя **суду, туку, заходу,** характэрныя для беларускай мовы. У давальным склоне адзіночнага ліку незалежна ад асновы выступаюць формы **отцеви, лекареви, петухови,** у назоўным склоне множнага ліку — формы **дедове, стражеве, родове,** якія шырока ўжываліся ў тагачаснай беларускай мове. У множным ліку, акрамя таго, звяртае на сябе ўвагу ўжыванне форм **гонцами, гужами, зубами,** характэрных раней толькі для жаночага роду.

Пры перавазе ўжыванняў царкоўнаславянскага займенніка азъ зрэдку можна сустрэць і ўсходнеславянскія: **азъ сплю, азъ выведохъ, азъ куплю,** але: **я Францискъ Скорининъ сынъ.**

У галіне прыметніка вельмі паказальнымі для характарыстыкі мовы Скарыны з'яўляюцца суадносіны форм роднага склону мужчынскага і ніякага роду. Тут царкоўнаславянскія формы — **безумнаго, великаго, дивнаго, живаго, мудраго** ўжываюцца часцей, чым усходнеславянскія — **белого, вечного, доброго, чистого.**

Скарына яшчэ выкарыстоўвае часам формы аорыста і імперфекта дзеясловаў — **видехъ, глаголахъ, дахъ, знахъ, просихъ,** якія ўжо не ўжываліся ў жывой беларускай мове таго часу. Яны часта замяняюцца формамі перфекта — **былъ есмъ, глаголалъ есмъ, мы[illegible]алъ есмъ,** якія, страціўш[illegible]зязку есмъ, сталі нормай старабеларускай пісьмовай мовы.

Аснову лексічнага складу выданняў Скарыны разам з агульнаславянскімі словамі тыпу, **земля, вода, небо,** складаюць сл[illegible] царкоўнаславянскія. Гэт[illegible]сабліва ярка відаць на прыкладзе перавагі няпоўнагалосных форм тыпу **блато, брада, брань, брегъ, врагъ, власть, власяница, гласъ** над усходнеславянскімі поўнагалоснымі тыпу **беремя, борода, боронити, голодъ.** Найбольш незразумелыя чытачу царкоўнаславянскія словы тлумачацца на палях беларускімі (такі прыём тлумачэння называецца глосай): **онагри — лоси, пажить—былие, тимъпанъ—бубенъ, холми — узгорки, ефиоплене — муринове** (негры) і інш. Побач з гэтым шырока ўжываюцца і беларускія слова тыпу **баба, бокъ, ботъ, ботьянъ, боханъ, вужъ, гай, господаръ, гукъ, гулня, дубецъ, зброя, конникъ.** Як вынік выкарыстання Скарынай Чэшскай бібліі 1506 года вельмі пашыраны словы чэшскага паходжання, накшталт **вчерашекъ (учарашні дзень), жадость (просьба), занепразнити (заняць), змизати (знікнуць), либивость (прыгажосць)** і інш. Ужываюцца таксама словы польскага, нямецкага, лацінскага, яўрэйскага паходжання, незвычайныя для царкоўнаславянскай мовы.

Такім чынам, з'яўленне скарынінскіх кніг, якое разам з абгрунтаваннем прынцыпу «асабістай веры» ў прадмовах, было праяўленнем светапогляду выдаўца, азначала паваротны пункт у гісторыі беларускай мовы старажытнага перыяду — увядзенне яе ў важнейшую сферу грамадскага жыцця — ідэалагічную, што рэзка павышала яе прэстыж. Па шляху, указаным Скарынай, пайшлі яго паслядоўнікі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі, якія давялі яго справу да канца, даўшы народу кнігі на яго роднай мове.

**Уладзімір СВЯЖЫНСКІ.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

### БУСЛЫ НА ІРЖЫШЧЫ

Буслы на іржышчы блукаюць чародкай,
Маўклівыя поступ у іх і паходка,
Бо час да адлёту застаўся кароткі..
Ды хіба ж адлёт іх бывае салодкі!

Спаткаюць дажджы, навальніцы над морам.
Журботна ў палёце адклікнуцца хорам.
Пакінуць радзіму — вялікае гора.
Бо вернуцца зноў на Палессе няскора.

Разбураць іх гнёзды вятры і завеі,
А птахі не згубяць любві і надзеі,
Што родныя ўбачаць нізіны, пагоркі.
У новых буслянках не будзе ім горка.

Аляксей РУСЕЦКІ

### ІМЁНЫ ВАДЫ

Услухайцеся, назавіце
вады імёны — словы чараў:
Усвечча, Іслач, Свіслач, Свіцязь
ды Вяча, Нача, Нарач, Шчара.

І моцы схочацца напіцца
пад кручаю ля валатоўкі,
адчуўшы мовы таямніцы,
сваёй гісторыі вытокі.

Віктар ГАРДЗЕЙ

### САСНА

Лясіна ўпадзе на прасеку —
Ад жалю пасля не засну.
На золата лічыць спрадвеку
Народ баравую сасну.

І хан, і кароль — хто не марыў
Аб нашай пакутнай зямлі!
Ды зноў пасля бур і пажараў
Смалістыя зрубы раслі.

Праз бор, пасівелы ад часу,
З пілой заваёўнік ішоў,
Сасны ж залатога запасу
Хапіла на многа вякоў.

Край выжыў навалаю лютай,
І грай у лясах не замёр.
За шчасце бясцэннай валютай
Заўсёды расплачваўся бор.

І дзяцел, і сойка, і пліска
Удзячны за гнёзды сасне, —
І дзеці смяюцца ў калысках,
І скрыпкі пяюць у вясне.

* * *

За зялёнаю вярстой,
Між узлескамі і нівай,
Як сустрэцца мне з табой —
Бесклапотнай і смяшлівай!

Ходзіш дзесьці ты ў вясне.
Блізка дзесьці я гуляю.
Калі цяжка, горка мне,
Я каханне выдумляю.

Рэдка ж так бываюць дні
Без адчаю і згрызоты —
Сэрца прагне чысціні,
Сэрцу хочацца пяшчоты.

Ведаю: шапчу дарма
У цішы прызнання словы.
Не было цябе, няма
І не будзе ў тлум вясновы.

Дзе блукала маладосць,
Там слядоў былых — ні звання.
Добра, што яшчэ ты ёсць,
Прага вечнага кахання.

Анатоль СЫС

### АДВЕЧНЫМ ШЛЯХАМ

*А. Р.*

вырасце трава
і траву адшукае раса

вырасцем мы
і нас адшукаюць слёзы
цярновыя і палыновыя
самотныя і радасныя
цёплыя і сцюдзёныя
і праз слёзы мы ўбачым свет
белы і чорны
зялёны і нябесны
шчаслівы і пякельны

але вырасце зноўку трава
і траву адшукае раса
і вырастуць нашы дзеці

**ІВАН КРАМСКОЙ — МАСТАК ВЫСОКІХ ПРЫНЦЫПАЎ**

# ПА-САПРАЎДНАМУ МУДРАЕ

Многіх майстроў рускай культуры — і сярод іх пісьменнікаў Льва Талстога, Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, Мікалая Някрасава, жывапісцаў Івана Шышкіна, Васіля Верашчагіна, Фёдара Васільева — людзі розных пакаленняў ведаюць па партрэтах мастака Івана Крамскога, па рэпрадукцыях з яго карцін. Такімі застаюцца яны ў памяці з дзіцячых год і да канца жыцця, суправаджаючы чалавека са старонак хрэстаматый і падручнікаў, часопісаў і газет, альбомаў і энцыклапедый. Са славутымі партрэтамі Крамскога можна было сустрэцца і на выстаўцы ў Акадэміі мастацтваў СССР, прысвечанай 150-годдзю з дня нараджэння гэтага майстра.

Ста жывапісным і ста графічным работам было цесна ў залах акадэміі, што на Крапоткінскай вуліцы ў Маскве. Затое глядач атрымліваў унікальную магчымасць убачыць амаль усе больш ці менш значныя карціны Крамскога, пазнаёміцца з невядомымі эцюдамі да вядомых палотнаў і малавядомымі палотнамі са збораў трыццаці музеяў.

Як са старымі знаёмымі, сустракаецца наведвальнік з галерэяй партрэтаў дзеячаў рускага мастацтва, аб якіх упаміналася спачатку. Але ёсць у гэтай галерэі і партрэты, амаль незнаёмыя шырокай публіцы, хаця і выдатныя па выкананню.

Тут таксама «Невядомая». Карціна, якая нязменна выклікае захапленне за мяжой. Напрыклад, толькі ў Токіо гэты партрэт маладой жанчыны паглядзела больш за 150 тысяч чалавек, а затым па просьбе арганізатараў выстаўкі карціна засталася ў Японіі яшчэ на некаторы час — у музеі «Фудзі».

Добра вядомы і аўтапартрэты Крамскога, своеасаблівыя жывапісныя аўтабіяграфіі, у якіх самы прыдзірлівы крытык не знойдзе ніякай ідэалізацыі—толькі праўду, адну праўду.

Крамской не цярпеў руціны і шаблонаў — і ў жыцці, і ў мастацтве. У 1863 годзе ён узначаліў так званы «Бунт 14» — выступленне вучняў Акадэміі мастацтваў супраць існуючай там кансерватыўнай сістэмы выкладання. Ён стварыў разам са сваімі аднадумцамі «Арцель мастакоў», а затым стаў адным з заснавальнікаў і ідэйным натхніцелем славутага Таварыства перасоўных выставак. Непасрэднай мэтай Таварыства было садзеянне шырокаму распаўсюджванню рэалістычных твораў, актывізацыя мастацкай дзейнасці рускай правінцыі. Але рух «перасоўнікаў» выйшаў за гэтыя рамкі, набыў значна большае значэнне, стаўшы аплотам барацьбы супраць рэакцыйных тэндэнцый у мастацтве.

Крамской бачыў у мастацтве вялікую грамадскую сілу. Лозунг «мастацтва для мастацтва» быў яму ненавісны. Вітаючы новае ў мастацтве, ён у той жа час папярэджваў, каб у пагоні за новым мастак не губляў цікавасці да грамадскага жыцця, захапляючыся тэхнічнымі прыёмамі, не забываў пра чалавека. «Без ідэі, — гаварыў ён,— няма мастацтва, але ў той жа час без жывапісу няма карцін, а ёсць добрыя намеры і толькі». Сваім высокім прынцыпам Крамской няўхільна заставаўся верны ўсё жыццё.

Сцвярджэннем значнасці чалавечай асобы прасякнуты многія яго работы, такія як «Селянін з аброццю», «Селянін, які спіць», «Вясковая кузня». Перад гледачом «соль зямлі», людзі, надзеленыя чалавечымі вартасцямі, моцнай воляй. Прыгнёт памешчыкаў і векавыя прыніжэнні не змаглі забіць у іх чалавека.

Крамской звяртаецца і да гістарычнага жанру, каб надаць агульназначнае гучанне маральным праблемам. Адзін з лепшых твораў гэтага плана «Хрыстос у пустыні», пагружаны ў думы аб лёсах людзей, поўны любві, спачування і гатоўнасці да самаахвярнасці. Гэта карціна-споведзь як бы заклікала сучаснікаў мастака да ахвярнага служэння народу.

Вядомыя па шматлікіх рэпрадукцыях карціны — «Месячная ноч», «Агляд старога дома», «Няўцешнае гора». І «Някрасаў у перыяд апошніх песень» — гэта партрэт-карціна: перамагаючы боль, вялікі паэт піша сваё духоўнае завяшчанне.

І, нарэшце, партрэт доктара Рухфуса. Апошні партрэт Крамскога. Ён памёр з пэндзлем у руках, працуючы над гэтым палатном... Як салдат на сваім пасту.

Сто карцін. Сто эцюдаў і накідаў. Усё проста і зразумела — як усё па-сапраўднаму мудрае. Частка вялікай спадчыны Івана Крамскога. Выдатнага мастака, выдатнага тэарэтыка мастацтва, страснага публіцыста і сапраўднага чалавека-грамадзяніна.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адбылася персанальная выстаўка вядомага савецкага жывапісца, народнага мастака рэспублікі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Г. Вашчанкі. У экспазіцыі былі прадстаўлены рэтраспектыўныя работы і творы апошніх гадоў. Дамінантай усёй выстаўкі стала шырокавядомае палатно «Маё Палессе». Гэта групавы партрэт землякоў мастака на ўлонні прыроды. Тэма радзімы, сваіх каранёў, народных традыцый — адна з галоўных у творчасці майстра. Сярод шматлікіх работ, ужо добра вядомых гледачу (яны выстаўляліся на той ці іншай выстаўцы), асаблівую ўвагу выклікала карціна «Радыяцыя», напісаная мастаком пад уражаннем трагічных падзей Чарнобыля.**



**НА ЗДЫМКАХ: Г. ВАШЧАНКА. «Да адлігі», «Свята восені».**

## НА МОВАХ СВЕТУ




### БАЛГАРЫЯ

У анатацыі да балгарскага выдання аповесці Уладзіміра Машкова «Як я быў вундэркіндам» сказана: «Жыве сабе адно зусім звычайнае хлапчаня, якое завуць Сева. Аднойчы яго бабуля адкрыла, што ён надзвычайнае дзіця — вундэркінд. З таго дня пачаліся яго пакуты і прыгоды. Захапляюча і таленавіта, з вялікім гумарам аўтар расказвае пра займальныя сітуацыі, у якія трапляе трэцякласнік Сева».

Аповесць выйшла ў сафійскім выдавецтве «Народна младеж». На балгарскую мову пераклала яе Святлана Тодарава.

### СССР

Мінскае выдавецтва «Юнацтва» выпусціла на англійскай мове кніжку вершаў Артура Вольскага «Еду ў госці да слана». Героі яе — жыхары заалагічнага сада, куды трапляе цікаўны хлопчык. Кожны звер, кожная жывёліна, кожная птушка надзелены пэўнымі рысамі чалавечага характару. Кніга выклікала ў свой час вялікую цікавасць юных беларускіх чытачоў. Пасля выпуску на беларускай мове яна была неўзабаве перакладзена на рускую, а затым на польскую. Цяпер мае магчымасць пазнаёміцца з ёю англамоўны чытач. Пераклаў яе Уолтэр Мэй.

### ЧССР

У пражскім выдавецтве «Лідовэ накладатэльс т в і» выйшла «Блакадная кніга» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна. На чэшскую мову твор пераклала Вера Кружыкава. Аўтар пасляслоўя крытык Міраслаў Заградка высока ацэньвае кнігу, ён, у прыватнасці, піша: «Жыццё Ленінграда падчас блакады адлюстравана тут шматгранна. З пункту гледжання ўдзельнікаў блакады, аўтары тлумачаць, чаму ленінградцы самі, а не толькі камандаванне палічылі неабходным абараняць свой горад і якое гэта мела значэнне. Аўтары кнігі блакаду Ленінграда параўноўваюць з іншымі акружанымі ворагам гарадамі і, расказваючы пра масавы голад, гавораць і пра галаданне героя гамсунавага рамана «Голад». У большасці выпадкаў, сведкі падзей, апавядальнікі вяртаюцца да агульных праблем, да жыццёвых умоў падчас блакады, да першай восені, да першай зімы, да вясны 1942 года — і так дзень за днём прыгадваюць. З дзесяткаў успамінаў мы даведваемся, як Ленінград ваяваў, як людзі працавалі, што яны елі і пілі, і чым яны зімой палілі, як паміралі, як хавалі памёршых, як людзі радаваліся нават невялікім поспехам сваёй арміі і таму кавалачку хлеба, што атрымалі звыш нормы».

Крытык падкрэслівае, што калектыўны аўтар кнігі (людзі, якія памятаюць і расказваюць пра перажытае) паказвае герояў, падзеі глыбока праўдзіва, дэталёва і па-мастацку пераканаўча. Менавіта так, сцвярджае аўтар пасляслоўя, дакументальныя сведчанні становяцца мастацкімі творамі — дзякуючы падбору і мантажу дакументальнага матэрыялу, зробленаму з адчуваннем градацыі і выразнай антыфашысцкай і антываеннай тэмай.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

# І ПАДРУЧНІК, І ДАВЕДНІК

Кніга А. Трусава «Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII в. в.» (Мінск, «Навука і тэхніка», 1988 г.) — не папулярны экскурсійны даведнік. Яна адрасавана спецыялістам — архітэктарам, археолагам, рэстаўратарам.

Я ўбачыла яе ў кнігарні, узяла ў рукі, пачала гартаць, разглядаць схемы, малюнкі і фотаздымкі. Адразу адчула глыбіню і змястоўнасць матэрыялу.

Як шкада, што нам мала знаёмыя скарбы нашага нацыянальнага дойлідства! Частка іх разбурана няўмольнымі вятрамі часу, іншыя — недасведчанымі людзьмі. Тое, што засталося, цяпер імкнёмся ратаваць, зберагчы для нашчадкаў.

У кнізе А. Трусава вядзецца навукова абгрунтаваны расказ пра эвалюцыю беларускай архітэктуры, традыцыйныя будаўнічыя матэрыялы, тыпы каменнай муроўкі. Аўтар падрабязна апісвае знешнюю і ўнутраную аздобу будынкаў абарончага, культавага і грамадзянскага дойлідства XI—XVII стагоддзяў.

Несумненна, што гісторыкі, рэстаўратары і археолагі знойдуць тут нямала карысных арыенціраў, парад, падказак для сваёй работы. І не толькі яны. Для мастакоў, керамістаў і дэкаратараў цікавым будзе той раздзел кнігі, дзе ідзе гаворка пра насценны жывапіс, віды цэглы і чарапіцы, паліваныя пліткі для падлогі і кафлю.

Асабіста я чытала пра кафлю проста з захапленнем. Дзівосныя ілюстрацыі (шкада толькі, што чорна-белыя) узнаўляюць нам несумненныя шэдэўры нашай нацыянальнай культурнай спадчыны. У кнізе дакладна даследуецца і падрабязна характарызуецца кожны тып беларускай кафлі, пачынаючы ад звычайнай гаршковай і канчаючы сюжэтнай, паліхромнай, з геральдыкай, партрэтнымі, раслліннымі і геаметрычнымі матывамі...

І зноў (каторы раз!) думаецца аб народных майстрах-самавуках, іх прыродным таленце, гусце і ўменні. Сёння важна не толькі захоўваць традыцыі іх школы, а і развіваць, вывучаць, множыць.

Кніга А. Трусава на гэтым шляху — цудоўны падручнік і даведнік.

**Т. ЛЫСОВА.**

*ПАРТРЭТ ФОТАМАЙСТРА*

# ТЫСЯЧЫ НЕПАЎТОРНЫХ ІМГНЕННЯЎ

Фатаграфія і жыццё. Менавіта так можна акрэсліць крэда вядомага беларускага фотамайстра Віталя Бараноўскага. Амаль трыццаць гадоў гэтае імя не сыходзіць са старонак маляўнічых фотаальбомаў, буклетаў, энцыклапедычных выданняў, фотаплакатаў, календароў.

Віталь Бараноўскі пачынаў як фотарэпарцёр спартыўнай хронікі трыццаць гадоў назад, калі быў студэнтам Беларускага інстытута фізічнай культуры. Сам неблагі спартсмен (Віталь выканаў норматыў майстра спорту па барацьбе), ён адлюстроўваў спорт... А далей «гукнула» да сябе тады маладое яшчэ тэлемастацтва — стаў аператарам тэлестудыі. Мінае год, другі, і кіно ўжо цягне да сябе... Але захапленне фатаграфіяй не праходзіла.

— Любіў гадзінамі сядзець у засадзе і пільнаваць «свой кадр». Адубееш за дзень, у схоўні седзячы, але ні кадра, ні шэдэўра... Назаўтра пачынай усё спачатку, — расказвае Віталь пра фотапаляванне. — Калі хто і лічыць, што хлеб рэпарцёра лёгкі, хай возьме маю кайстру, а ў ёй 25 кілаграмаў фотапрычындалаў, і проста паносіць па вуліцы.

І праўда, лёгкага хлеба ў журналістыцы не бывае. Віталь Бараноўскі аб'ехаў усю рэспубліку з пасведчаннем фотарэпарцёра. Былі сярод яго калег тыя, хто і сапраўды спяшаўся «пстрыкнуць», зрабіць здымак-аднадзёнку, каб рапартаваць рэдактару: «Заданне выканана!» Віталь жа і тут умудраўся зрабіць фота для душы, прапанаваць на рэспубліканскую выстаўку тое, што выклікала зайздрасць. «Бачыш, сярод лужыны здолеў сонейка ўхапіць!»



Беларуская фотажурналістыка, параўнаўча маладая, брала свой разгон у шасцідзесятых. Сярод прызнаных майстроў, як У. Дагаеў, А. Дзітлаў, У. Кітас, С. Салавейчык, У. Стэц, С. Берлін, значыліся імёны і сярэдняга пакалення — В. Ждановіч, А. Ананка, В. Бараноўскі, А. Мызнікаў. Імёны гэтыя можна прадаўжаць. Менавіта яны, гэтыя фотакарэспандэнты, і зрабілі фоталетапіс жыцця нашай рэспублікі за апошнія 30 гадоў. Адзін з іх робіць сёлета справаздачу. Упершыню ўсе лепшыя яго работы сабраны пад адным дахам у кнігарні «Светач», што на праспекце Машэрава.

Шмат хто спяшаўся сюды на святочныя фотаагледзіны. І, як сведчаць запісы ў кнізе водгукаў, для многіх гэта выстаўка — сапраўднае адкрыццё. Так, адкрыццё новага, невядомага свету. Аўтар запрашае ў падарожжа па Нарачы, дзе рыбацкае шчасце напаткала нарачанскіх дзядоў. Разам з ім мы сустракаем непаўторны золак на рацэ... Сярод будзённай звыкласці майстар знаходзіць «залатыя» імгненні і, узрадаваны адкрыццём, паказвае ўсім нам.

Дык спытайцеся, што ж можа зрабіць фотамайстар за трыццаць гадоў. І многа, і ў той жа час мала. І гэта сапраўды так. Мы не збіраемся весці пералік зробленага Віталем Бараноўскім за гэты час. Не ўсё аднолькава моцнае, ёсць і работы спрэчныя па сваёй мастацкай вартасці. Прыдзірлівыя крытыкі бачаць у гэтых работах залішнюю «акадэмічнасць». Але галоўнае, што вабіць да сябе гледача, — тысячы непаўторных імгненняў, выхапленых з хуткаплыннага жыцця нашага.

**Вячаслаў ДУБІНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: Віталь БАРАНОЎСКІ на «фотапаляванні».**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ПРА КЛЮЧЫ—СТРАТЫ І ЗНАХОДКІ

Ва ўжытку чалавека са старажытных часоў бытуе адзін дзіўны прадмет, з якім ён звязаны паўсядзённа і які заўсёды носіць пры сабе. Гэта ключ, звычайны ключ.

Хто не зведаў трывогі і нават разгубленасці ад страты ключа?

Ай, згубіў ключ! Колькі нечаканых клопатаў нясе з сабой такое здарэнне...

Кожны раз, знаходзячы на беразе Дзвіны ў Віцебску чарговы старажытны ключ, я перажываў незвычайнае пачуццё далучэння да дзівоснай тайны — тайны чалавечага быцця.

Колькі такіх страт (па шчасцю, заўсёды папраўных) здарылася менавіта тут, на берагах нашай Дзвіны, да якой меў прыхільнасць і з якою «дружыў» кожны віцябчанін ва ўсе часы. У гэтых простых знаходках навечна захавалася і цеплыня чалавечых рук, і адгалосак яго мілых клопатаў, і любасць да дому, да сямейнага ачага.

Прыгледзьцеся да гэтых дзіўных сілуэтаў: колькі своеасаблівай дасканаласці ў кожным з іх, колькі выдумкі і густу ў іх прывычнай канфігурацыі. Форма ключа заўсёды не толькі функцыянальна выверана, але і памастацку завершана, яна як бы лашчыць руку, сутыкаючыся з ёй, яна, увабраўшы ў сябе элемент своеасаблівага «культу», стала носьбітам стылю часу.

Красамоўна расказваюць аб густах свайго часу ключы XVIII—XIX стагоддзяў. Барочная мудрагелістасць і класічная строгасць лёгка чытаюцца ў зграбнай, часта вытанчанай форме, якая заўсёды адпавядае часу і ўяўленням людзей аб прыгажосці.

Калекцыя старажытных ключоў — гэта і паказчык высокага майстэрства, і багатай фантазіі майстроў, якія іх выраблялі. Ліццё і коўка, у тэхніцы якіх рабіліся ключы, дэманструюць высокі тэхнічны ўзровень майстроў «жалезнай справы», цераз рукі якіх прайшла незлічоная колькасць нязменных спадарожнікаў чалавечага існавання.

Але ж ключ — з'ява заўсёды другасная, і заўсёды гэта ключ да замка. Уяўленне міжволі малюе ўжо сілуэты старажытных замкоў. Знаходкі іх надзвычай рэдкія ўжо таму, што адзін замок перажываў мо дзесяткі ключоў. Галоўным жа віноўнікам дрэннай захаванасці старажытных замкоў з'яўляецца час, перад якім складанай дэталізаванай сістэме замка выстаяць куды цяжэй.

Тым не меней некалькі экземпляраў замкоў XVI—XIX стагоддзяў знойдзецца ў маёй калекцыі, з якімі ў далейшым я спадзяюся пазнаёміць паважаных чытачоў.

**А. МЕМУС,**
**мастак.**



**Ключы XVIII—XIX стагоддзяў з калекцыі А. МЕМУСА.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### ПУДЫНГ З МАЗГОЎ

**Мазгі замачыць на 30—40 мінут, затым зняць плёнку, пераласці ў каструлю, заліць халоднай вадой, дабавіць 1 сталовую лыжку трохпрацэнтнага воцату, лаўровы ліст, перац, соль і паставіць варыць. Пасля мазгі працерці праз сіта, дабавіць сыры жаўток, узбітыя бялкі, масла, соль, мускатны арэх, дробна пасечаную зеляніну, перац і перамяшаць. Масу выкласці на глыбокую патэльню, змазаную тлушчам, зверху папырскаць маслам, пасыпаць молатымі сухарамі і запячы ў духоўцы. Падаць з чырвоным соусам.**

**600 грамаў мазгоў, 3 сталовыя лыжкі сметанковага масла, 4 яйкі, 1,5 сталовай лыжкі молатых сухароў, 15 грамаў мускатнага арэха, 1 шклянка чырвонага соусу, зеляніна, перац, соль.**

### ЧЫРВОНЫ СОУС

**Муку спасераваць да крэмавага колеру і развесці гарачым мясным булёнам. Карэнні, цыбулю і тамат-пюрэ спасераваць, пераласці ў булён і паварыць на слабым агні на працягу 20—30 мінут. У канцы варкі дабавіць соль, крыху віна (мадэры ці партвейну), працадзіць і давесці да кіпення.**

**2 сталовыя лыжкі мукі, 1 морква, 1 корань пятрушкі, 1 цыбуліна, 0,5 шклянкі тамату-пюрэ, 3 сталовыя лыжкі тлушчу, 3 шклянкі мясного булёну, 1—2 сталовыя лыжкі віна, соль.**

### ЮШКА БУЛЬБЯНАЯ З МЯСА

**Рэбры з мясам пасячы на часткі, прамыць, пакласці ў каструлю з халоднай вадой, дабавіць дробна парэзаную рэпчатую цыбулю, давесці да кіпення і варыць на слабым агні. За 15—20 мінут да канца варкі дабавіць нарэзаную долькамі бульбу. У канцы варкі пакласці соль, лаўровы ліст, сельдэрэй ці пятрушку.**

**5—6 бульбін, 550—600 грамаў мяса, 1—2 цыбуліны, лаўровы ліст, сельдэрэй, зеляніна, соль.**

## К. КАЛІНОЎСКАМУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

**Беларускі фонд культуры і Рэспубліканскае добраахвотнае таварыства аматараў кнігі падрыхтавалі і выдалі буклет, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння К. Каліноўскага і 125-й гадавіне паўстання 1863—1864 гадоў на Беларусі і Літве. У буклеце змешчаны лінарыты Міколы Купавы з графічнай серыі паводле кнігі Г. Кісялёва «Сейбіты вечнага», створаныя ў 1976 годзе, і партрэт К. Каліноўскага (1977 год). Гэтую серыю мастак перадаў у дар Беларускаму фонду культуры.**

**Мікалай РОЗУМ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80; 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 590.